*На прастор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

№ 214 (566)
Пятніца, 27 лістапада 1998 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 4000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



**Віншуем!**

## З назначэннем!

Кіраўнік дзяржавы 25 лістапада разгледзеў кадравыя пытанні. Як паведамілі БелТА ў прэс-службе прэзідэнта, Аляксандр Лукашэнка даў згоду на назначэнне СІДОРСКАГА Сяргея Сяргеевіча — першым намеснікам Гомельскага аблвыканкама, СЦЯПУРЫ Васіля Ігнатавіча — старшынёй Воранаўскага райвыканкама, САЗОНАВА Ігара Сяргеевіча — рэктарам Магілёўскага машынабудаўнічага інстытута і САХАНЬКО Уладзіміра Якаўлевіча — дырэктарам Магілёўскага завода "Строммашына".

**БелТА.**

**Чулі?**

## Пакуль у Мінску спасылаюцца на тайну следства па справе Васіля Старавойтава, у Кіраўску рыхтуюцца да прыезду тэлевізіёншчыкаў. На суд

Аб тым, што судовае разбіральніцтва справы Васіля Старавойтава будзе праходзіць у судзе Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці, "Народная воля" ўжо паведамляла. Аднак у адпаведных праваахоўных інстанцыях — Пракуратуры Рэспублікі Беларусь, КДБ, МУС — з гэтага спрабавалі стварыць праблему, спасылаючыся, зразумела, на тайну следства. Як, дарэчы, і на гэты раз, калі давялося дазнавацца, менавіта ў які дзень пачнецца суд у Кіраўску.

Тэлефаную ў Мышкавічы. Думалася, ужо хто-хто, а родзічы Васіля Канстанцінавіча ведаюць пра пачатак судовага следства, канкрэтную дату. Бо гэта звязана з пераездам падсуднага са следчага ізалятара КДБ у Мінску ў аналагічны (але гэта вельмі ўмоўна) у Бабруйску, адкуль будуць за два дзесяткі кіламетраў дастаўляюць В.К.Старавойтава на судовыя пасяджэнні ў Кіраўск.

Як паведамілі родзічы В.К.Старавойтава, па мясцовым радыё ў Мышкавічах (а гэта ў пяці-шасці кіламетрах ад райцэнтра) ужо перадалі навіну: судовае разбіральніцтва па "нашумелай справе" экс-старшыні аграпрамысловага аб'яднання "Рассвет" В.К.Старавойтава пачнецца ў панядзелак, 30 лістапада, у судзе Кіраўскага раёна.

Бяздротавы тэлеграф хуценька данёс вестку да шматлікай радні Васіля Канстанцінавіча, якая ўжо стала прыязджаць у Мышкавічы на суд. Родам ён з Бялыніцкага раёна, там і партызаніў у свой час. У Клімавіцкім раёне, калі быў дырэктарам саўгаса "Раднянскі", атрымаў першую Залатую Зорку Героя Сацыялістычнай Працы. Амаль тры дзесяцігоддзі пасля Кірыла Арлоўскага нязменна ўзначальваў буйную і шматгаліновую гаспадарку "Рассвет". На мой погляд, за дзесяцігоддзі гераічнай працы Васіль Канстанцінавіч заслугоўвае таго, каб быць на поўным забеспячэнні дзяржавы, а не прыцягваць яго да турэмнай адказнасці. Калі ў нас такія людзі, як В.К.Старавойтаў, злодзеі, то, скажыце, хто тады самы "чэсны" ў краіне?

На пытанне, вінаваты ці не вінаваты В.К.Старавойтаў, адкажа, безумоўна, суд. Але, як пацвердзілі родзічы Васіля Канстанцінавіча, нягледзячы на дрэнны стан здароўя, бадзёрасці і аптымізму ён не страціў. Упэўнены, што зможа даказаць сваю невінаватасць па ўсіх дзевяці артыкулах Крымінальнага кодэкса, як і размежаваць некаторыя паняцці. Бо чаго толькі не прыпісваюць яму: ад абедаў для механізатараў — да выдачы прадуктаў для ўдзельнікаў семінараў.

Калі я вырашыў удакладніць у адваката першы дзень судовага пасяджэння ў Кіраўску, адказ Веры Страмкоўскай мяне здзівіў.

— Афіцыйнага запрашэння для ўдзелу ў судзе пакуль не атрымала. Мабыць, яшчэ пішуць...

Тэлефаную ў Кіраўск. Суддзі на месцы няма. "Запалоханыя" работнікі адмаўляюцца пацвердзіць ці, наадварот, абвергнуць інфармацыю.

Зноў тэлефаную ў Кіраўск. Але ў другую ўстанову. А там ужо ведаюць, што суд пачнецца 30 лістапада, — "на вуліцах марафет наводзіцца, тэлевізіёншчыкі з Мінска прыедуць".

Выходзіць, на перыферыі ведаюць больш, чым у сталіцы.

**Віктар СВІРКО.**

**Скандал**

## Депутату Европарламента Элизабет Шредтер белорусское консульство в Брюсселе отказало в визе на въезд в нашу страну

Депутату Европарламента, члену немецкой Партии зеленых Элизабет Шредтер белорусское консульство в Брюсселе отказало в получении въездной визы в Беларусь. Г-жа Шредтер должна была участвовать в конференции "Перемены или изоляция", которая проходит в Минске 26—27 ноября. В программе визита также значились встречи с оргкомитетом Хартии'97, оппозиционными политиками и коллективами крупнейших негосударственных белорусских СМИ.

В пресс-релизе, распространенном фракцией зеленых в Европейском парламенте, говорится, что "запрет режима Лукашенко на въезд Элизабет Шредтер в Беларусь — провокация не только по отношению к Европарламенту, поручившему г-же Шредтер подготовить отчет о проблеме будущих взаимоотношений между ЕС и Беларусью, но и всему демократическому сообществу".

Г-жа Элизабет Шредтер, член фракции зеленых Европарламента и член комиссии по связям с Беларусью, Молдовой и Украиной, — первый западноевропейский политик, которому был запрещен въезд на территорию Беларуси. Она принимала участие в пикетах возле белорусского посольства в Брюсселе под требованиями соблюдения прав человека. В этом году Европарламент принял также две резолюции по правам человека в Беларуси, в которых выразил свое негативное отношение к ситуации в нашей стране. Не стоит забывать также, что сегодня ни одно белорусское официальное лицо не может посетить страны Западной Европы и США по причине специального решения ЕС, принятого после дипломатического скандала вокруг резиденций иностранных послов в Дроздах. Вероятнее всего, все эти причины и послужили поводом к тому, что белорусский МИД "затянул" с выдачей визы для Шредтер.

Сама г-жа Шредтер прокомментировала этот факт следующим образом: "Я до сих пор не получила никаких объяснений тому, почему мне был запрещен въезд в Беларусь. Возможно, эта мера — всего лишь ответная реакция на меры, введенные ЕС в июле, по отношению к режиму Лукашенко. Данным шагом Лукашенко лишь усиливает самоизоляцию, к которой он непрерывно вел свою страну со дня проведения референдума два года тому назад. Лукашенко не только руководит страной с помощью преследований своего собственного населения, арестов и исключений студентов из вузов. Он также вызывает обеспокоенность у европейских политиков, таких, как я. Однако Лукашенко не удастся сломить стремление белорусского народа к демократии".

**Пресс-центр Хартии'97.**

**Стоп-кадр**

Моцны, зусім не восеньскі мароз не палохае мінчан, якія выходзяць на вуліцы горада, каб абараніць свае грамадзянскія і чалавечыя правы.

Фото IREX/ProMedia.

*Людмила ГУЛЯКЕВИЧ,*

*собственный корреспондент "Народной воли" в Республике Польша*

## Свет в белорусском лицее в Гайновке не погаснет. Пока...

В конце сентября в общеобразовательном лицее с обучением на белорусском языке в Гайновке (Белостокское воеводство) было отключено электричество — в качестве наказания за неоплаченные счета. После мгновенной интервенции польских медиа вечером того же дня свет в лицее был снова включен, однако вопрос задолженности за электричество на повестке дня остался — долги нужно было погасить до 30 ноября. Денег на это взять было неоткуда: бюджетных средств на содержание школы выделяется всего 37 тыс. злотых в год, а только счета за электричество составляют 40 тысяч злотых, школа же еще должна покупать уголь на отопление (60 тысяч злотых). В подобной ситуации находятся многие польские школы — финансовые средства, выделяемые Министерством образования, составляют только 90% потребностей школ. Однако столь радикальные средства, как отключение тока, были применены только к белорусскому лицею (одному из двух действующих в Польше, второй находится в Бяло-Подляске), что дало повод некоторым польским газетам в своих комментариях подчеркнуть еще раз известную "нелюбовь" руководства белостокского воеводства к белорусскому меньшинству, массово населяющему эти земли. В белорусском посольстве в Варшаве историю с лицеем прокомментировали мягче: "Политической проблемы мы не видели, хотя нельзя исключить определенное "пристрастие" со стороны местных властей..." По словам представителей белорусской власти, наша страна немногим может помочь лицею, помощь белорусского Министерства образования ограничивается отдельными дарами — в виде учебников, телевизоров и т.п., организацией стажировок в Минске для преподавателей школ и лицеев с белорусским языком обучения в Польше. В последние годы Беларусь в дополнение к этому также спонсирует двухнедельное пребывание у нас в стране победителей всепольской олимпиады по белорусскому языку, организуемой в Варшаве обществом Польша—Беларусь и Министерством образования Польши.

Помощь лицею пришла совсем с другой стороны — из Парижа. И нужно сказать, что пришла она совершенно неожиданно. Чек на 15 тысяч франков (около 9 тысяч злотых) лицей получил от редактора польского журнала "Культура", издаваемого во Франции, одного из наиболее заслуженных деятелей польской эмиграции Ежи Гедройца. Гедройц, родившийся в начале века в Беларуси, несмотря на свой преклонный возраст (ему уже 92 года) продолжает работать. Для сегодняшней Польши он является одним из самых влиятельных моральных авторитетов. Информацию о проблемах белорусского лицея Ежи Гедройц получил от писателя белорусского происхождения Сократа Яновича, проживающего на Белосточчине, и поначалу обратился с просьбой помочь разрешить проблемы лицея к министру образования Польши. Однако вмешательство министра привело лишь к отсрочке сроков оплаты. И Ежи Гедройц не стал останавливаться на полпути. Вот как сам он прокомментировал свой дар белорусскому лицею для "Газеты Выборчей": "Белорусский лицей в Хайнувке имеет разные достоинства, высокий уровень, но это небольшой лицей и имеет финансовые проблемы. У меня не было другого выхода, кроме как прийти на помощь школе, хотя и несколько демонстрационно, в надежде, что это повлияет на позицию белостокской администрации, которая принимает решения по национальным вопросам. Я имею в виду главным образом позицию лица, занимающего должность воеводы, который уже не в первый раз демонстрирует склонность трактования проблемы белорусов дискриминационным образом. А это портит совместную жизнь с белорусским национальным меньшинством и "дразнит" в целом польско-белорусские отношения".

## Параіўшыся сам з сабою, суддзя Мікалай Трубнікаў зноў адклаў разгляд справы Валерыя Шчукіна. На гэты раз – з-за няяснага міліцэйскага пратакола

Аж два пасяджэнні судовага разбіральніцтва спатрэбіліся суддзі Партызанскага раёна г.Мінска Мікалаю Трубнікаву, каб зразумець, што змест пратакола, складзенага ў адносінах да дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання Валерыя Шчукіна, не адпавядае патрабаванням артыкула 235 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях.

Здавалася б, суддзя меў усе правы апраўдаць удзельніка санкцыянаванага мітынгу Валерыя Шчукіна, бо ўсе падставы для таго меліся. Нагадаем, што Шчукін з групай спадарожнікаў вяртаўся выключна па тратуарах, вуліцы пераходзіў толькі на дазвалялыны (зялёны) сігнал святлафора, сваімі паводзінамі не ствараў перашкод руху транспарта і пешаходаў. Карацей кажучы, ніякім чынам "не спрыяў" свайму затрыманню і ніяк не падпадаў пад артыкул аб групавых парушэннях. Дарэчы, і пратакол быў складзены на дэпутата не пры затрыманні на мітынгу, і не пасля яго, а ў час наведвання суда і па другой справе. Затое ўмеюць міліцыянты ствараць дакументы на дзень пазней, але нібыта ў момант падзеі. Таму і блытаніна ў доказах, і жаданне выдаць тое, што магло быць, за рэчаіснасць, сапраўдны факт.

Калі праваабаронца (ён жа падсудны) Валерый Шчукін заявіў хадайніцтва аб прыцягненні да судовага разгляду асобу ў міліцэйскіх пагонах, якая склада пратакол, а таксама сведкаў, крыць суддзі ўжо не было чым. Патрабаванні адваката Веры Страмкоўскай прад'яўляліся вельмі абгрунтаваныя, і суддзі таксама нічога не заставалася рабіць, як аб'явіць перапынак для прыняцця рашэння.

Калі ж пастанова суда была абвешчана: накіраваць пратакол у Партызанскі РАУС на дапрацоўку, у падсуднага і адваката, зразумела, узніклі пытанні ў адносінах менавіта В.Шчукіна: чаму не спынена судовая справа і не адпраўлена вызначэнне ў адрас раённага аддзела ўнутраных спраў? На што суддзя спаслаўся не на закон, не на Адміністрацыйны кодэкс, а на інструкцыю, нібыта складзеную з практыкі падобных спраў.

Пасля судовага пасяджэння міжволі ўзнікае шэраг пытанняў. Першае: чаму прымаюцца да разгляду ў судзе справы, накіраваныя мясцовай міліцыяй, у якіх нават не ўказана сутнасць адміністрацыйнага правапарушэння і ў дадатак не ўпамінаецца нават нарматыўны акт, які прадугледжвае адказнасць за дадзенае правапарушэнне? Па-другое, чаму так званаму парушальніку міліцыянты пры складанні пратаколаў забываюцца растлумачыць іх правы і абавязкі, зрабіць адпаведны запіс у дакуменце, спаслаўшыся на артыкул 247 Адміністрацыйнага кодэкса. Патрэцяе...

А ці ж не занадта праколаў для... пратаколаў? І тых, хто па абавязку службы іх складае? І, дададзім, вельмі непрафесійна...

Ёсць над чым задумацца.

**Віктар СТАРЦОЎ-СТАРАСЕЛЬСКІ.**

## Гэтаму самазвалу няма аналага ў СНД

Да групы высокаэфектыўнай тэхнікі, якую выпускаюць на Мінскім заводзе колавых цягачоў , а на сённяшні дзень гэта 36 найменняў і мадыфікацый, у хуткім часе прыбавіцца яшчэ адна перспектыўная мадэль. Гэта новы самазвал МЗКЦ-6525. Як і большасць яго "сабратаў", ён не мае аналагаў у СНД.

Паводле апошніх даных, атрыманых яго стваральнікамі з выпрабавальнага палігона, дарожны самазвал выдатна дэманструе ўсе закладзеныя ў яго тэхнічныя магчымасці. Гэта магутная поўнапрывадная машына грузападымальнасцю ў 21 тону. Яна забяспечана 420-сільным рухавіком германскай фірмы "Дойц" і 16-ступеньчатай каробкай перамены перадач вытворчасці "Цанрадфабрык". Па сваіх тэхнічных характарыстыках мадэль цалкам адпавядае стандарту "Еўра-1".

Як паведамілі карэспандэнту БелТА на Мінскім заводзе колавых цягачоў, новы самазвал быў нядаўна прадстаўлены на Міжнароднай выстаўцы ў Санкт-Пецярбургу, дзе выклікаў вялікую цікавасць у патэнцыяльных пакупнікоў.

Спецыялісты гэтага вельмі вядомага ў СНД і за яе межамі прадпрыемства маюць намер у наступным годзе здзівіць сваіх пакупнікоў тым, што летам на выпрабаванні будзе накіравана яшчэ адна навінка — ужо 30-тонны самазвал!

**Таццяна СМІРНОВА, БелТА.**

**Крымінал**

## Жулікі ў пагонах тэрарызуюць рынак

Жулікі ў міліцэйскіх пагонах тэрарызуюць буйнейшы харчовы рынак сталіцы "Камароўка". Як стала вядома карэспандэнту БелТА, двое невядомых у форме супрацоўнікаў міліцыі і адзін у цывільным правялі 24 лістапада рэйд па "спагнанні незаконна набытых матэрыяльных каштоўнасцей у бюджэт дзяржавы". Як паведаміў адзін з удзельнікаў канфлікту, паміж гандлярамі і такзванымікантралёраміўраёне грамадскагатуалетарынкуадбылася бойка. Зрэшты, без выкарыстанняагнястрэльнайіхалоднайзброі.

У праваахоўных органах Савецкага раёна сталіцы, да якога адносіцца "Камароўка", паведамілі, што "самадзейныя" кантралёры з крымінальных структур з'яўляюцца тут амаль што кожны месяц.

## Суд лічыць да 13...

Нарабіў шуму ў Ваўкавыску судовы працэс па справе арганізаванай злачыннай групы, якая спецыялізавалася на крадзяжы прэстыжных машын замежнай вытворчасці. Тром яе ўдзельнікам прыйдзецца правесці ад 8 да 13 гадоў у калоніі ўзмоцненага рэжыму. У іх канфіскавана маёмасць. Акрамя таго, яны павінны вярнуць пацярпелым больш за 2 мільярды рублёў. Справа ў тым, што з 19 украдзеных аўтамабіляў знашлі і вярнулі ўладальнікам толькі 7. Астатнія злачынцы паспелі прадаць.

**БелТА.**

## За апошнія дзесяць дзён курс долара ЗША на "чорным" рынку наяўнай валюты ў Мінску вырас амаль на чвэрць

На "чорным" рынку наяўнай валюты ў Мінску другі тыдзень працягваецца рост амерыканскага долара. За апошнія дзесяць дзён (з 16 па 25 лістапада) яго курс вырас у сярэднім на 24 працэнты, са 170—175 да 210—215 тысяч рублёў пры пакупцы і са 175—180 да 220—225 тысяч рублёў пры продажы (зафіксаваны нават здзелкі па курсе 230 тысяч). Пры гэтым за апошнія тры дні долар падаражэў на 12 працэнтаў.

На думку аператараў "чорнага" рынку, непасрэднай прычынай росту каціровак сталі лішкі беларускай наяўнасці. Гэта, у сваю чаргу, было выклікана чарговым рашэннем урада кампенсаваць работнікам бюджэтнай сферы страты ад інфляцыі, а таксама пераводам на "чорны" рынак часткі аперацый з пазабіржавага рынку нерэзідэнтаў. Як вядома, пасля нядаўняй забароны на перавод беларускіх рублёў на карэспандэнцкія рахункі банкаў-нерэзідэнтаў гэты рынак звузіўся да мінімуму і знаходзіцца пад жорсткім кантролем Нацбанка. Напрыклад, 25 лістапада курс долара да безнаяўнага рубля на нерэзідэнцкім рынку складаў усяго 180—200 тысяч рублёў, у той час як на "чорным" рынку рэзідэнтаў — 360—370 тысяч.

У далейшым аператары прагназуюць часовую стабілізацыю і, магчыма, некаторае зніжэнне наяўнага курсу (да 200—210 тысяч рублёў), што з'яўляецца традыцыйным для канца месяца.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

**Позиция**

## Верховный Совет Республики Беларусь 13-го созыва намерен назначить президентские выборы на май 1999 года

Очередное заседание Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва, который признает весь цивилизованный мир, проходило во вторую годовщину так называемой "черной" даты в истории современной Беларуси — 24 ноября. Как известно, не угодные главе государства народные избранники, изгнанные президентом с применением грубой физической силы из Овального зала, вот уже два года вынуждены работать за пределами здания парламента. Тем не менее депутаты не изменили своему долгу, остались верны Конституции Республики Беларусь и избирателям, давшим им мандаты на принятие законов.

Верховный Совет рассмотрел политическую ситуацию в стране и отношение легитимного законодательного органа к будущим выборам.

Пятилетний срок полномочий первого президента заканчивается 20 июля 1999 года. В связи с тем, что Конституция Республики Беларусь не предусматривает иного способа продления полномочий государственных деятелей, избираемых народом, кроме как повторные выборы, парламентарии констатировали, что очередные президентские выборы должны состояться не позднее 20 мая 1999 года.

Исходя из того, что назначение выборов главы государства — прерогатива законодательного органа, принято решение провести в январе—феврале 1999 года сессию Верховного Совета 13-го созыва, на которой назначить дату выборов и принять необходимые документы по выполнению данного решения.

Для подготовки пакета документов создана рабочая группа в составе 11 парламентариев. В ее состав включен Виктор Гончар, которого Верховный Совет 13-го созыва в 1996 году назначил на должность председателя Центральной избирательной комиссии.

**Валерий ЩУКИН,**
**депутат Верховного Совета 13-го созыва, член рабочей группы.**

## Буйная партыя зброі выяўлена ў Светлагорску

Упраўленне па арганізаванай злачыннасці і карупцыі па Гомельскай вобласці пры МУС РБ выявіла збройны "арсенал" у Светлагорску. На кватэры 40-гадовага рабочага ВА "Хімвалакно" былі знойдзены і канфіскаваны вінтоўка "маўзер" і вінтоўка Мосіна часоў Вялікай Айчыннай вайны са збітымі нумарамі, граната С-1, 139 патронаў да аўтамата ППШ, 3 кг 180 г пораху, запчасткі да пісталета ТТ.

Як патлумачыў гаспадар, частку арсенала — 139 патронаў да пісталета Макарава, 50 патронаў калібра 5,6 мм, 17 патронаў да пісталета ТТ, 9 патронаў да вінтоўкі Мосіна, а таксама 4 кг 765 г пораху — ён перадаў аднаму з урачоў мясцовага скурна-венералагічнага дыспансера. Указаных прадметаў ва ўрача не выяўлена, затое аператыўнікі знайшлі і канфіскавалі магазін да пісталета Макарава і два патроны да яго, 370 патронаў калібра 5,6 мм. Па гэтых фактах міліцыя пакуль праводзіць разбор. Рабочы арыштаваны, а з доктара ўзята падпіска аб нявыездзе.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**



**Надвор'е**

27 і 28 лістапада на тэрыторыі рэспублікі захаваецца пераменная воблачнасць, у заходніх раёнах пройдзе невялікі снег. Вецер усходні, 3—8 м/с. Тэмпература паветра ўначы -11...-16, па паўночным ўсходзе да -19. Удзень -4...-9; на захадзе рэспублікі ўначы -6...-11, удзень -2...-7.

## Вы — з "Народнай воляй", "Народная воля" — з Вамі!

**Для вашай, шаноўныя сябры, зручнасці мы ў чарговы раз змяшчаем абанементны бланк. Запоўніце, калі ласка, — і на пошту альбо ў любы пункт "Белсаюздруку". Нас не разлучыць!**

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **6 3 2 2 2** (індэкс выдання)

Народная Воля

Колькасць камплектаў

на 1999 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА** на газету **6 3 2 2 2** (індэкс выдання)

ПВ | месца | літар

Народная Воля

Кошт: падпіскі ______ руб.; пераадрасоўкі ______ руб. Колькасць камплектаў

на 1999 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

## Нацыянальны выканаўчы камітэт (НВК) Рэспублікі Беларусь прызнаў палітыку ўлад у сферы аховы здароўя непераканаўчай

Як непераканаўчую прызнаў палітыку, якую праводзяць беларускія ўлады ў сферы аховы здароўя, Нацыянальны выканаўчы камітэт Рэспублікі Беларусь. Такая ацэнка была дадзена 24 лістапада на пасяджэнні НВК. З дакладам перад членамі "ценявога" ўрада выступіў вядомы ўрач, старшыня камітэта па ахове здароўя НВК Уладзімір Белякоў. Па яго словах, у краіне працягвае павялічвацца паказчык натуральных страт насельніцтва: за апошнія паўгода ён склаў каля 23 тысяч чалавек. Такі рост, па словах У.Белякова, з'яўляецца дастаткова сур'ёзным паказчыкам нізкай якасці жыцця насельніцтва Беларусі. Асабліва шмат смярцей зафіксавана ад сардэчна-сасудзістых захворванняў. Медыкі тлумачаць гэта немагчымасцю насельніцтва займацца прафілактыкай гэтай хваробы, паколькі высокія цэны на лекавыя прэпараты пры нізкай заработнай плаце не дазваляюць набываць неабходныя лекі.

У той жа час урачы і іншыя медыцынскія работнікі, закліканыя стаяць на варце здароўя нацыі, самі перайшлі ў разрад жабракоў. Напрыклад, службовыя аклады работнікаў аховы здароўя, нават з улікам іх павышэння з 1 лістапада, для ўрачоў складаюць 2 мільёны 275 тысяч рублёў, для сярэдняга медперсаналу — 1 мільён 624 тысячы і для малодшага медперсаналу — 1 мільён 179 тысяч.

У рашэнні, прынятым НВК адносна гэтага, змяшчаецца патрабаванне да ўрада і Нацыянальнага банка неадкладна вырашыць пытанне аб выдзяленні валюты для закупкі лекаў і медыцынскага абсталявання, а таксама ўзняць узровень мінімальнай зарплаты ўрачоў хаця б да ўзроўню мінімальнай зарплаты ў Літоўскай Рэспубліцы, якая цяпер складае суму, эквівалентную 107 доларам.

**Уладзімір ГЛОД.**

Народная Воля 27 ЛІСТАПАДА 1998 г.

Печальная история

# Пишут – “рассмотрели внимательно”, читай – “отвяжись”. И так восемь лет кряду...

Почти полвека бывший учитель, а ныне пенсионер Григорий Емельянович Тихонович состоит в членах своего профсоюза. Потому и решил обратиться за помощью именно в Белорусский республиканский комитет профсоюза работников образования и науки. А все дело в том, что проживает учитель-пенсионер в ветхом щитовом доме. Изготавливались конструкции еще в 1955 году и по всем амортизационным срокам пришли в негодность.

Кстати, как заметил Григорий Емельянович, все, кто приобретал проект в одно время с ним, давно посносили дома-"времянки" и возвели новые. Куда ни обращался ветеран-педагог — отовсюду, в том числе и из районных инстанций, получал отписки. Вот и вспомнил Григорий Емельянович о родном профсоюзе. Надеялся: вмешаются “просвещенцы”, сдвинут ставшую для него глыбу-проблему с места.

Но не тут-то было. Не привыкли в Минске обременять себя хлопотами да заботой о старой профсоюзной гвардии, и тем более — выездами на место к обратившимся с просьбой людям. И вот за подписью заведующего отделом правовой защиты и охраны труда республиканского комитета профсоюза работников образования и науки Л.В.Манюка полетела в деревню Шишево Горецкого района отписка. Чтобы не быть голословным, сошлюсь на ее текст (исходящий №69 от 20 июня 1998 года):

*“Белорусский республиканский комитет профсоюза работников образования и науки внимательно рассмотрел письмо по вопросу ремонта Вашего дома.*

*По существу поставленного вопроса нами направлено письмо-ходатайство в адрес Горецкого райисполкома на имя председателя Кривенкова В.А. с просьбой об оказании содействия в проведении ремонта Вашего дома”.*

Ветерана-педагога это еще более удивило, ибо из родного райисполкома за много лет он получал десятки подобных “душевных и чутких” документов-отписок с непременной переадресовкой в отдел образования: “разобраться”. И разбирались, и изучали вроде бы проблему. А воз, как говорят, и ныне там...

Любопытен в этом смысле “дефектный акт”, подписанный 18 апреля 1990 года комиссией в составе заместителя заведующего отделом народного образования Н.А.Седукова, председателя районного комитета профсоюза А.Д.Горбачева, инженера-архитектора райисполкома Н.В.Занько, старшего инженера РОНО А.А.Мирончикова. Оказывается, комиссия составила *“настоящий акт на предмет необходимости проведения ремонта для дальнейшего проживания учителей-пенсионеров т.т. Тихоновича Г.Е. и Тихонович Т.М. При этом установила: необходимо выполнить следующие виды работ: обкладка дома силикатным кирпичом; замена шиферной кровли, рубероида с частичной заменой решетки; ремонт деревянного пола; ремонт печи; замена дверных коробок”.*

Короче говоря, авторитетная по своему составу комиссия установила, что дом подлежит ремонту и проживать в нем небезопасно. А спустя восемь лет председатель сельского исполнительного комитета Е.С.Коробочкин докладывает А.А.Кривенкову прямо противоположное: *“...В результате визуального осмотра его домовладения установлено, что дом Тихоновича Г.Е. находится в приемлемом для проживания состоянии”.* И дополнил: на территории, мол, сельсовета проживают одинокие престарелые граждане в *“гораздо худших условиях”*, которым-де действительно нужно оказывать помощь в ремонте жилья. И “пригвоздил”, разумеется, “от имени и по поручению” всего сельисполкома: *“Считаем, что жалоба Тихоновича Г.Е. необоснованна”.*

Получается, судьбу учителей-пенсионеров решил один сельский “вертикальщик” по фамилии Коробочкин, для пущей важности дописавший, что домовладение Г.Е.Тихоновича, “неоднократно” посещали председатель сельисполкома (когда?), члены жилищной комиссии (кто?)... Вопросы, безусловно, остаются. Особенно если учесть, что тов.Коробочкин и весь Ректинский сельский исполнительный комитет, информируя предрайисполкома А.А.Кривенкова, показал полную неосведомленность в делах Тихоновичей. Из-за проклятой квартирной дыры Григорий Емельянович и Таисия Моисеевна давно развелись, и домовладелицей осталась бывшая супруга. А старый учитель добивается справедливости: крыши над собственной головой, не претендуя вовсе на бывшее домовладение, как, впрочем, и его прежняя супруга, которая с удовольствием передала бы сельсовету весь дом в обмен на квартиру.

Но в том-то и дело, что предоставлять квартиры разведенным учителям-пенсионерам никто не торопится, как и вникать в суть дела.

Тов. Е.С.Коробочкин спешит отрапортовать главе районной администрации тов.Кривенкову “по поводу обращения в Белорусский республиканский комитет профсоюза работников образования и науки”, а районный “вертикальщик” шлет бумагу дальше... Замкнутый круг?

Зато из Минска старого педагога убаюкивают особым вниманием, от которого Григорию Емельяновичу, как и его бывшей супруге, отнюдь не легче. “Написали бы прямо, как есть, — говорит ветеран. — Мол, некогда заниматься вами, пенсионерами. Словом, отвяжитесь... И это было бы куда человечнее и честнее...”

Тут вряд ли возразишь.

**Виктор СВИРКО.**

Нельга маўчаць!

# Марная спроба ўтаймаваць беларусафоба

Калі марная, дык навошта пішу? А можа, дасць Бог, дойдзе слова хоць да аднаго сумленнага беларуса, і то варта гарбець за сталом.

Даўно баліць і муляе, як набраклы верад, прызнанне Івана Васілеўскага: “Народ не хочет разговаривать на этой **деревенской, мужицкой** мове”. Падумалася: калі ж ён правёў модны ў наш час “рэферэндум” і атрымаў катэгарычнае адмаўленне народа: “Не хочам!”. А сам, відаць, не з “мужыкоў”.

Рупіла звярнуцца да аўтара асабіста, але не ведаю, як завуць яго тату. Як раней называлі “таварышам”, назваць не адважваюся, каб не пакрыўдзіць яго, што набіваюся ў таварышы; не называю “панам”, бо не ведаю, ці мае маёнтак; грамадзянінам — не ведаю яго падданства; скалечаным словам “спадар” ніколі не карыстаўся. Наогул, у наш кручаны час не ведаеш, як звяртацца да малазнаёмага чалавека, бо не кожны “дарагі” і “шаноўны”, ды і каб не пакрыўдзіўся за такую “фамільярнасць”. Таму, прабачце, Іван Васілеўскі, за такі нязручны зварот, бо і проста “паважаным беларусам” назваць вас не магу. Які ж вы беларус, калі шырока тыражыруеце апантаную абразу мовы, а значыць — культуры, традыцый, нацыянальнай годнасці старажытнейшага народа, які даў вам жыццё, паставіў на ногі, даў пэўныя веды, а ў вас, апрача прозвішча, нічога беларускага не засталося. Уявіце сабе, каб чэх, паляк, француз, казах або кітаец так публічна абразіў сваю мову, якімі б гузакамі яго “ўшанавалі” землякі. А ў Беларусі вы — прагрэсіст, свядомы перадавік, змагар за ўсеагульную еднасць. Вы павінны ведаць: знікае мова — знікае і народ. А колькі іх знікла за гэтае стагоддзе! Знікненне нават асцяцкай, ніўхскай, аварскай моў — непапраўнае бедства для сусветнай культуры.

А вы ледзь не мацюкаеце матчына слова — сваю першую калыханку. Вашы сябры і аднадумцы пацiскаюць руку і захапляюцца: “Вот Ваня врезал этому мужичью, ну молодец”. Праўда? А вы і рады, што набылі вагу, сабе ступіўшы на нагу, бо ведаеце, што абшарханы, спрадвек запалоханы сваёй “непаўнацэннасцю” “тутэйшы” сцерпіць, змоўчыць не першы і не апошні плявок у душу, як “мацюк” — д'ябальскую абразу адзінай і святой Маці.

Церпіць ваш суразмоўца і некаторы чытач ваш пагардлівы тон і позу гогалеўскага “всезнайки”. Адзін з вашых апанентаў, відаць, дасведчаны выдатнік асветы Васіль Сокал у 195 нумары “Народнай волі” паўшчуваў вас, як непадрыхтаванага вучня, нагадаўшы выказванне сусветна славутага нашага земляка Адама Міцкевіча пра гарманічнасць, багацце прыгожай, блізкай яму з маленства беларускай мовы. Дазвольце нагадаць яшчэ адно выказванне таго ж волата паэзіі і духу — Адама Міцкевіча:

“На белорусском языку, который называют русинским, говорит около 10 миллионов человек: это самая богатая и самая чистая речь. Она возникла давно и прекрасно разработана в период независимости Литвы. Великие князья пользовались ею для своей дипломатической переписки" (т.5, — 1959 г.).

Законамі, напісанымі па-беларуску у Статуце 1558 года, кіраваліся Літва, Польшча, Украіна. А вы з нейчага голасу паўтараеце, што на беднай беларускай мове нельга выказаць важныя і сур'ёзныя па глыбіні думкі. Палітычна-прапагандысцкі слоўнік, засмечаны варварызмамі, — самы бедны і вузкі. А ўзоры сусветнай літаратуры — неабмежаванае лінгвістычнае багацце. Адэкватаў хапае ў беларускай мове, каб перакласці на высокім узроўні “Фауста” Гётэ, амаль усяго Шэкспіра (драмы і санеты), “Боскую камедыю” Дантэ Аліг'еры, паэмы і вершы Байрана, творы Гейнэ, Бальзака, Талстога, вытанчанага Буніна, Уітмана, Пушкіна, Лермантава, таго ж Міцкевіча “Пана Тадэвуша”, “Дзяды” (не пераклалі ж рускія паэты “Господин Фаддей” і “День поминания усопших”. Не зберагчы моўны каларыт — загубіць паэзію, а яна ў мове народа. Успомніце “Новую зямлю” Я.Коласа...

А каму не хапае слоўнага запасу для выказвання свайго глыбакадумства, дык вінавата не мова, а той, хто авалодаў ёю ў межах “трасянкі” кепскай раёнкі, хто не адчувае паэзіі слова. Не будзем далёка хадзіць. Успомніце паэтычнае слова “вырай”, а ў перакладзе — “отлет птиц в жаркие страны”, назвы кветак, траў і дрэў, а беларускія месяцы — не паўтор імёнаў рымскіх імператараў Аўгустаў і Юліяў, а самая маляўнічая і водарная палітра — студзень, люты, сакавік, красавік, травень, чэрвень, ліпень, жнівень, залацісты верасовы цвет, шумлівы лістапад — цэлая гама колераў і пахаў. Дык ці не злачынства вырачыся такога моўнага “мужыцкага” багацця?

Сярод нашых продкаў было больш паэтаў, чым цяпер прагматыкаў. Таму трацім паэзію слова, пачуцця і жыцця. Каб адчуваць прыгажосць слова, трэба мець тонкі слых, зрок, чулую душу і трошкі фантазіі.

Вы апраўдваеце сваё рэнегацтва, зняважлівую грэблівасць да ўсяго “мужычага” працяглым жыццём у Расіі. І я ў цэнтральнай Расіі і Сібіры пражыў 20 гадоў, выкладаў толькі рускую мову і літаратуру. Я інтэрнацыяналіст па перакананнях і духу, у маёй сям'і перапляліся карані аж чатырох народаў. Я ўсіх люблю і шаную, але ніколі не выракаўся свайго роднага, любага і назаўсёды дарагога. У Новасібірскай вобласці ёсць цэлыя паселішчы землякоў-беларусаў, дарэвалюцыйных перасяленцаў. Нават самыя малодшыя пакаленні не страцілі фанетыкі, слоўнай асновы роднай мовы, традыцый, песень, побыту, кулінарыі, мяккасці характару. Куды б мяне не кідаў лёс, я нічога не страціў роднага, узбагаціўся скарбамі моўнай і духоўнай культуры народаў, з якімі давялося разам жыць і працаваць, задушэўна сябраваць і... любіць.

А трагедыя Беларусі, перш за ўсё, абумоўлена яе геаграфічным становішчам. Хто не таптаў і не крывавіў нашу зямлю, хто не далучаў да сваіх абшараў, не мяняў рэлігіі, нацыянальных вытокаў,ператвараючы беларусаў у “тутэйшых”, у якіх вытравілі ўласнае імя. Асабліва ходка разбеларушванне пайшло ў апошнія дзесяцігоддзі. У 1962 годзе 6.362 тысячы беларусаў трымаліся сваёй мовы, 275,7 тысячы чалавек іншых нацыянальнасцей роднай мовай лічылі беларускую. За апошнія 30 гадоў розныя забытыя і паўзабытыя “кіраўнікі” паспелі больш, чым іх усеўладныя папярэднікі за ўсе мінулыя стагоддзі.

Вы прыводзіце яшчэ адзін довад: беларуская мова зусім не мова, а “русскоязычные слова, только произносятся иначе, гораздо хуже, чем на русском языке”. І тут вы не арыгінальны. Неяк па тэлебачанні малады маскоўскі “думец” здзекліва заявіў: “Что это еще за украинский и белорусский языки? Это же испорченные русские слова. Все понятно, только звучит грубо. Зачем они?”. Я не вытрымаў і напісаў невялічкі верш, у якім няма ніводнага небеларускага слова. Адклаў і праз некаторы час зрабіў аўтапераклад.

Вось беларускі тэкст:

### Ветразь

*У выраі ветразь знікае*
*За хваляй, нібы на спачын,*
*І змора яго не злякае,*
*Не спыніць тугой далячынь.*
*У змроку зіхоткая здрада*
*Завабіць хлуснёй у віры,*
*На золку сканае прынада*
*І кволы прамень на жвіры.*
*Раптоўна згаданыя мроі*
*У карунках пяшчотнай тугі*
*Павольна знікаюць, як строі,*
*У бязважкасці кволай смугі.*
*Знікае ўсхвалёваны ветразь:*
*З кунегаю пільна сачу,*
*Як водар аздобіў паветра,*
*І ў бездані знічкі лічу.*

Праз нейкі час завітала да мяне добрая знаёмая з Новасібірска — Тамара Васільеўна Кібірава. Пацiху мармытала радыё. Яна прыслухалася і амаль дакладна паўтарыла тое, што “вещал” па тэлебачанні малады “думец”: “Ведь все понятно. Что же это за язык?”. Тады я ёй прачытаў “Ветразь”. Слухала і прызналася: “Ничегошеньки не поняла”. Тады прачытаў ёй аўтапераклад:

### Парус

*Парус, как белую стаю,*
*Волна на покой унесла,*
*Он легким виденьем растает,*
*Угроз не пугаясь и зла.*
*Сусальною блесткой измена*
*Заманит в крутую волну.*
*Растает шипящая пена,*
*К седому прильнув валуну.*
*Нежданно мечты и надежды*
*Исчезнут, как легкий туман,*
*И, как привиденье, одежды*
*Спадут, как мираж и обман.*
*Взволнованный парус исчезнет,*
*Как пламя дотлевшей свечи,*
*А я над бушующей бездной*
*Считаю созвездья в ночи.*

Уважліва слухала Тамара Васільеўна. Памаўчала. “Оказывается, есть очень красивый и богатый язык, а мы слушаем только газетную белиберду в две сотни слов”. Вось вам і бедная мова “с испорченным произношением”.

А колькі дыялектаў у кожнай мове, якое моўнае багацце яшчэ дажывае ў народнай памяці! Я магу назваць мноства рускіх слоў і фраз, страчаных паэтычнай вялікай рускай мовай. Паспрабуйце адрэдагаваць “Тихий Дон”, кнігі Астаф'ева, Абрамава, Распуціна, вытравіўшы ўкраінізмы, беларусізмы, мясцовы каларыт, і знікне шматколерны цуд і моўнае багацце. Страта самай маленькай мовы — трагедыя чалавечай культуры, а мы губім ключ к разуменню славянскіх моў. У сваіх падарожжах беларускае слова адкрывала мне дзверы і душы палякаў, чэхаў, славакаў, славенаў, лужыцкіх сербаў. Чым чалавек больш ведае, тым ён багацейшы. Цурэцца ведання мовы, асабліва сваёй, гультай, чэрствы і глухаваты спажывец, які добра засвоіў гастранамічную і фінансавую лексіку.

Я не наіўны і добра разумею, што мой запал не пераканае ніводнага зацятага беларусафоба. І ўсё ж спадзяюся — хоць два чалавекі зразумеюць, і то ўжо добра. Кажуць: два ацалелыя чэхі адрадзілі праз стагоддзі сваю мову.

Простите, мой адресат, что не выдерживаю, когда так бесцеремонно хулят самое дорогое, родное, как мать, — язык и душу предков и потомков. Успехов вам в лингвистических упражнениях, да осенит вас Всевышний своею мудростью любить все родное и быть любимым — подлинным patriotes.

Таму са шчырымі пажаданнямі звяртаюся па-руску, каб зразумелі “мужычае”.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ,**
**нерусафоб.**

Стоп-кадр



Булкі, якія выпякае ў Віцебску Сяргей Гурчанка, не чарсцвеюць, разыходзяцца імгненна. Людзі баяцца, што хутка і з хлебам будуць перабоі. Дарэчы, у некаторых месцах і зараз не заўжды купіш духмяны бохан альбо смачны батон.

Не, нельга дапусціць, каб краіна засталася без хлеба.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

Внимание!

# Четыреста первый способ одурачивания наивных

В некоторых белорусских газетах нередко появляются различного рода рекламные объявления с предложением работы на дому. Человек, заинтересовавшийся подобным предложением, ликует, он сможет иметь фантастический заработок: от 150 тысяч рублей в день и до 500 и более долларов США в месяц! Многие “клюют” на такую приманку. Еще бы: работать придется, как указано, всего 2—3 часа в день...

Вот, например, Александр Феликсович Хмелевский, а/я-64 (дом. тел. 232-40-94), предлагает отправить ему письмо с вложенным в него конвертом с обратным адресом. Он обещает выслать перечень работ, на первый взгляд не требующих особых усилий. Таких работ четыре вида. Одна из них — обработка корреспонденции на дому: разборка писем и распространение рекламы по адресам. Зарплата — от 400 до 800 тысяч рублей в неделю при 2—3-часовой занятости. Второй вид — почтовая работа, связанная с получением, сортировкой, обработкой, пересылкой почтовой корреспонденции, размещением рекламных объявлений и т.п. Зарплата уже от 900 тысяч рублей в неделю и выше, в зависимости от выбранного варианта.

Следующие работы, предлагаемые А.Хмелевским, наиболее интересны, ибо зарплата будет выплачиваться уже в свободно конвертируемой валюте. Что же это за работы? Изготовление полуфабрикатов для фармацевтической промышленности, что связано со сбором и обработкой безвредного сырья, “имеющегося практически везде, но в небольших количествах”. Представляете? Везде! Оказывается, все мы, не подозревая того, ходим по деньгам, нужно только нагнуться и поднять их.

Интересна и работа “по реализации иностранцам предметов, имеющих у них большой и постоянный спрос”. Знание языка здесь “не требуется”, достаточно иметь под рукой словарь — русско-английский или англо-русский, например. И все. Как просто! Но здесь есть одно “но”. Для того, чтобы получить инструкцию (не работу, а только инструкцию) и приступить к работе, необходимо выслать господину Хмелевскому почтовым переводом 35 тысяч рублей. Не бог весть какие деньги, можно и рискнуть, тем более, говорят, риск — благородное дело. И вот вы рискнули, выслали деньги и с нетерпением ждете вожделенного момента, когда начнете работу, получив инструкции. Не радуйтесь раньше времени. Грести деньги лопатой вам не придется. Оказывается, вы заплатили 35 тысяч за два листа бумаги с текстом, трудно читаемым, некоторые слова можно разобрать только с увеличительным стеклом в руках.

Посмотрим, что же все-таки написано в так называемой инструкции? Вот “Методика работы по распространению информации”. Чтобы приступить к делу, необходимо подобрать информацию, пользующуюся спросом (где подобрать, у кого она пользуется спросом?): всяческие рецепты и заговоры народной медицины, рецепты блюд и напитков, полезные советы, интересные технологии и многое другое. Допустим, вы собрали какую-то информацию, но ее потом необходимо отпечатать, размножить, найти клиентов и распространить среди них. Где отпечатать, размножить? Хмелевский предлагает купить... пишущую машинку, принтер или ксерокс, обратиться в ближайшую типографию или фирму, занимающуюся полиграфической деятельностью. Видите, как просто: взял и купил. А человеку, надеявшемуся получить работу на дому, может быть, не хватает денег сейчас на самое необходимое?

С почтовой корреспонденцией на дому тоже очень “просто”. Необходимо абонировать ящик на почте “для удобства получения корреспонденции” и сдавать его в аренду за определенную плату желающим. Если же это трудно сделать, то Александр Феликсович предлагает установить несколько ящиков на лестничной клетке у своей квартиры или возле калитки собственного дома. Возле дома можно еще представить десять-пятнадцать почтовых ящиков, висящих на заборе, а на лестнице многоэтажного дома? Как будет выглядеть дверь собственной квартиры, увешанная почтовыми ящиками, представляете? Но этого мало. Вся предстоящая вам работа будет законной, если вы... зарегистрировались в администрации своего района.

Можно подробно описать и другие виды такой вот, с позволения сказать, деятельности, предлагаемой Хмелевским: мелкая торговля по почте, заочные курсы, услуги по почте, реализация коллекционного материала за рубеж. А как быть, если такие материалы имеют историческую ценность или являются музейной редкостью? А может быть, вы купили их у человека, который приобрел материалы уголовно наказуемым путем?

Нельзя не остановиться и на таком виде предлагаемых работ, как изготовление полуфабрикатов. Что это за “зверь” такой? Оказывается — изготовление фармацевтической продукции из желчного камня крупного рогатого скота — поясняется в инструкции. Выходит, что человек, пожелавший заняться таким вот бизнесом, должен нанять машину и разъезжать по колхозам, совхозам, мясокомбинатам и собирать желчный камень. Причем, обработав камень, вам предстоит найти представителя западного бизнеса и получить “за услугу вознаграждение в валюте”. Ну просто здорово!

Заканчивается вся инструкция или, проще сказать, двухстраничная галиматья словами: “Искренне желаю вам успеха!”

Искренне желаю вам, уважаемые читатели, не попадаться на уловку современного Остапа Бендера. Бессмертный герой Ильфа и Петрова знал, по своему собственному признанию, 400 способов относительно мирного изъятия денег у граждан. Хмелевский и ему подобные, публикующие объявления о предоставлении работы на дому, указывают еще один, 401-й способ: бессовестный обман.

**Вячеслав КОВАЛЕВ.**

Минск.

Пора задуматься!

# Кто будет следующим президентом?

Об этом пора подумать сейчас, ибо до президентских выборов не так уж и далеко. Давайте подумаем и напишем в газету, кого мы хотели бы видеть руководителем страны.

Все рейтинги, которые проводятся разными центрами, по-моему, неправдивы. Они навязывают нам одних и тех же политиков. В их опросах обычно фигурирует вопрос: “Если бы в ближайшее время состоялись новые выборы президента Республики Беларусь, кого бы вы поддержали в первую очередь?”. И далее следует стандартный список политиков, где присутствуют одни и те же лица. И 30—40% опрошенных отвечают: “Затрудняюсь ответить...” или “Нет ответа”. Так и хочется спросить: кого же вам надо, люди?

У меня есть предложение: попросить через газету социологов включить в этот список графу “нестандартный кандидат”, “альтернативный” или что-то в этом роде, короче, “кандидат от народа”. И в эту графу вносить имена тех, кого бы мы, простые избиратели, хотели видеть своим президентом. Пожалуйста, предлагайте, граждане. Пусть это будет даже не политик — просто человек — умный, порядочный, в какой-то степени известный, вызывающий доверие, симпатию и уважение.

И если его рейтинг позволит нам увидеть в нем альтернативу нашему “единственному и неповторимому”, нам просто нужно будет упасть на колени перед этим человеком и просить его выставить свою кандидатуру на будущих президентских выборах, которые состоятся-таки в конце концов. А лучше напишите свои предложения в “Народную волю”.

И чтобы положить начало, предлагаю в кандидаты человека неординарного, полную противоположность тем кандидатам, которые у нас есть, — госпожу Ивонку Сурвиллу. Женщина, умница, американка белорусского происхождения, горячий патриот нашей страны, лидер объединения белорусов мира, человек с огромными связями и возможностями, политик, пользующийся уважением мировой общественности. А если учесть, что этнических белорусов в эмиграции проживает более трех миллионов, то даже если каждый из них внесет хоть маленькую лепту, наши силы удвоятся, и тогда Беларусь возродится в одночасье, как птица Феникс из пепла.

Представьте себе на одной чаше весов нищету и бесправие, которые олицетворяют сегодняшняя власть, а на другой — свободу и благосостояние. Что покажет опрос общественного мнения? Чья чаша перетянет? Невероятно хочется знать, до какой степени деградировало наше общество.

С уважением —
**Светлана КОНДАКОВА.**

Минск.

# Дзякуй вам за духоўнае ачышчэнне народнай памяці

Шаноўная рэдакцыя!

“Народня воля” з пачатку лістапада з нумара ў нумар друкавала спіс ураджэнцаў Беларусі, рэпрэсаваных у Мурманскай вобласці. Гэтыя даныя з'явіліся дзякуючы намаганням кандыдата гістарычных навук Станіслава Дашчынскага, які ўратаваў з цемры забыцця імёны і прозвішчы нашых землякоў. Яму, а таксама рэдакцыі “Народнай волі”, трэба падзякаваць за працу па духоўным ачышчэнні народнай памяці.

Што асабліва ўражвае, калі чытаеш звесткі пра загінуўшых людзей, дык гэта тое, што ў гэтых спісах — уся геаграфія Беларусі. Знайшлося згадванне і пра жыхароў маёй Клімаўшчыны. Вось, напрыклад, Галкоўскі Аляксандр Емельянавіч — нарадзіўся ў 1909 годзе ў вёсцы Судзілы Клімавіцкага раёна. На момант арышту пражываў у г.Кіраўск Мурманскай вобласці. Што мог зрабіць небяспечнага для ўлады і краіны гэты беларус, які не меў кіраўнічых пасад, не ведаў дзяржаўных таямніц і сакрэтаў, бо працаваў звычайным слесарам на камбінаце? За што расстралялі маладога хлопца, якому не было яшчэ 30 гадоў? Магчыма, нам гэта растлумачыць прафесар Залескі, які навукова абгрунтуе смерць гэтай і іншых ахвяр таго крывавага часу...

Улада ні тады, ні зараз не жадала і не жадае пайсці на прызнанне жудаснасці сваёй антычалавечай палітыкі. Вось красамоўныя лічбы, якія сведчаць пра стаўленне да праўды ў савецкія часы. Пасля першых гадоў рэабілітацыі нявінна асуджаных (сярэдзіна 50—60 гг.) гэты працэс значна зменшыўся, і на працягу з 1971 па 1988 гады было рэабілітавана ўсяго каля трох тысяч чалавек. Пакуты мільёнаў простых людзей былі не заўважаны, і да таго ж іх працягвалі лічыць “ворагамі народа”. Але ж гэта і быў народ — сяляне, рабочыя, служачыя. Нават афіцыйная статыстыка не здолела адмовіць той факт, што ў пік рэпрэсій 1937 года сярод рэпрэсаваных толькі кожны дзевяты быў членам кіруючай камуністычнай партыі, а ўсе астатнія “прадстаўлялі” заводы, калгасы, розныя ўстановы і арганізацыі.

Нагадаем яшчэ раз Аляксандра Галкоўскага. Калі я ўбачыў у газеце ягонае прозвішча, то вырашыў пагартаць кнігу “Памяць. Гісторыка-дакументальная хроніка Клімавіцкага раёна”. У ёй надрукаваны раздзел “Вернутыя імёны”, прысвечаны памяці рэпрэсаваных клімавіцкіх жыхароў. Тут таксама змешчаны спісы загінуўшых і пацярпеўшых ад палітычных рэпрэсій, якія займаюць у кнізе 32 старонкі. Ёсць сярод іх і Галкоўскія. Галкоўскі А.Я. — калгаснік, Галкоўскі Д.В. — земляроб, Галкоўскі К.В. — настаўнік, Галкоўскі П.М. — настаўнік, Галкоўскі С.Л. — калгаснік. Як бачыце, яны не вельмі адрозніваюцца сваім становішчам і пасадамі ад слесара Галкоўскага. З гэтых пяці адзін быў расстраляны, двое атрымалі па 10 год зняволення, астатнія прайшлі праз арышт і высылку з Беларусі. Такі лёс людзей, ад якіх сёння засталіся толькі 32 старонкі тэксту з імёнамі і прозвішчамі шматлікіх ахвяр жудаснага сацыяльнага эксперыменту XX стагоддзя.

**Сяржук АРЖАНЦАЎ.**

“Шкловские” откровения

# На Белорусском телевидении дикторам пудрят носики не пудрой, а мелом, карандашом же подводят веки

В этот день в Шклове высадился целый десант радиожурналистов и телевизионщиков. Национальную Гостелерадиокомпанию представляли заместители Г.Киселя — В.Куприенко и В.Ядренцев, ведущие программ Чайка, Новиков, Капузо и другие.

В районном Доме культуры собралось свыше 200 шкловчан. Люди пришли с предприятий, как в былые времена, “по разнарядке” — по 5 человек от коллектива. У входа снова велся учет, сверялись данные о прибывших. Те, кто задавал вопросы в микрофон, заранее были подготовлены, ибо их длительные речи, а также хвалебные вопросы воспринимались как лицедейство и заученные роли. В основном хвалили программы типа “Осилок”, “Все нормально, мама!”, “Калыханку” и другие.

И все же в записках в адрес руководства Белорусского телевидения поступали и нелицеприятные вопросы типа “Почему БТ неумело копирует РТ?”, или “Вы нормально относитесь к существованию оппозиции как таковой? И если да, тогда почему не даете слово оппозиции на телеэкране?” И еще: “Порой читаешь оппозиционную прессу: написано одно, глядишь и слушаешь вас, то бишь телеэкран и радио, — там совершенно другое и приукрашенное?”.

Гостям из Минска пришлось изворачиваться, всякий раз искать подходящие слова, придумывать аргументы в свою защиту.

**Куприенко:** “Белорусское ТВ — государственное и не может работать на оппозицию. Мы предлагали оппозиции выступать на БТ. Вспомните хотя бы встречу с Познером. Но там оппозиция показала себя в нехорошем свете”.

Один из шкловских телезрителей хотел задать вопрос главному “резонатору” страны господину Зимовскому. Жаль, что его не было. Волновало шкловчан и другое: кто окажется очередным “врагом” и кого посадят за провалы в экономике? Не станет ли им только что выдвинутый в вице-премьеры наш земляк А.А.Попков?

**Куприенко:** “Нравится или не нравится кому-то Зимовский, но жизнь "такая". Переменчивая. (И далее в шутку — **А.Щ.**) “Враг” наш сегодня — кочегар. Холодно очень в зале...”

(Этот вопрос задал я, работающий кочегаром в котельной, но вразумительного ответа не получил.) На вопрос из записки — БТ — бедно и пресно — Куприенко ответил: “Да. Так. Бедно. Мы пудрим носики дикторам не пудрой, а мелом, и карандашом подводим веки”. Отсюда, мол, и старые фильмы, и старые ляльки, и прочее.

На предложение А.А.Прокопчика, пенсионера, что нужно быть резче, смелее, а то власть заедается, Куприенко охарактеризовал белорусов как нацию *памяркоўную*, и, мол, не нужно накалять обстановку и сталкивать народ.

Был и такой интересный вопрос: “Почему вы не транслируете ТВ братнего украинского народа?” — “Нет украинского ТВ, оно полностью выкуплено немцами”, — последовал ответ.

На такие откровения вышли в Шклове гости из Минска. Эти суждения наводят на многие размышления.

**Александр ЩЕРБАК.**

Шклов.

Закулисье

## Власть боится тех, кто считает себя человеком

Недавно я искал работу. В Центре занятости нашел соответствующую моей специальности вакансию в Главном хозяйственном управлении при Администрации президента Республики Беларусь. Так я оказался в их отделе кадров.

Все было бы нормально, если бы не последняя запись в моей трудовой книжке. Специалист отдела кадров (не хочу называть ее фамилию, поскольку отнеслась она ко мне вполне сочувственно) спрашивает:

— А это что — МП?.. Коммерческая структура?

— Да.

— Тех, кто работал в коммерческих структурах, мы не берем. Извините, но такова установка.

Вот вам и свобода трудоустройства. Хотя логика властей вполне понятна. Работавшие в свободных (частных) фирмах и ощущают себя свободными. Такие нынешней власти не просто не нужны — они, оказывается, для нее опасны.

**Олег РУМЯНЦЕВ.**

Минск.

## “Беларускую музычную восень” адкрыў Барыс Беразоўскі

У апошнія асеннія дні ў рэспубліцы праводзіцца Міжнародны фестываль мастацтваў “Беларуская музычная восень”.

Першы канцэрт, які адбыўся ў яго рамках, быў прысвечаны пачатку 53-й сесіі Генеральнай асамблеі ААН. Паводле слоў мастацкага кіраўніка філармоніі Юрыя Гільдзюка, для беларускіх паклоннікаў музыкі ён стаў сапраўднай падзеяй. Пасля шматгадовага перапынку на беларускую сцэну выйшаў Барыс Беразоўскі. Недасведчанай частцы публікі Юрый Гільдзюк растлумачыў, што да вядомага палітыка яго цёзка не мае ніякіх адносін. Барыс Беразоўскі — таленавіты піяніст, які цяпер пражывае ў Вялікабрытаніі.

**Эдуард ПІВАВАР.**

## А таковых более 50 процентов

13 ноября была напечатана корреспонденция под заголовком “Общественное мнение поворачивается в сторону Запада”. Маленькое уточнение: все приведенные в четвертом абзаце цифры даны относительно тех респондентов, которые считают нынешнюю экономическую ситуацию в Беларуси кризисной. А таковых, согласно социологическому опросу лаборатории НОВАК, оказалось 50,6 процента.

## ДА ЎВАГІ ПАДПІСЧЫКА!

Адпаведна дагаворам, заключаным з рэдакцыямі (выдавецтвамі), пры афармленні падпіскі прадпрыемствы сувязі ажыццяўляюць пасрэдніцкія паслугі па распаўсюджванню і дастаўцы, таму за нявыхад, несвоечасовы выхад з друку газет і часопісаў адказнасць перад падпісчыкам нясе рэдакцыя (выдавецтва).

Праверце правільнасць афармлення абанемента, на абанеменце павінен быць пастаўлены адбітак касавай машыны. Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце ставіцца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).

- - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - -

Для афармлення падпіскі на газету ці часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з даставачнай картачкай запаўняецца падпісчыкам чарніламі, разборліва без скарачэнняў, у адпаведнасці з умовамі каталога.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" выконваецца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.

